

# Чарнакніжнік

**П'еса-казка ў 2-х дзеях**

АСОБЫ

Агапка, дзяўчына-сірата.
Стась, малады палясоўшчык.
Парамон, певень.
Варгін, кот.
Люцыпар, цмок.
Чарнакніжнік.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## З'ява першая

Сонечным ранкам на падворку перад хатай у Агапкі. Цішыню абуджае крык пеўня: «Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку!» Услед за крыкам на даху паказваецца і сам певень Парамон – чорны як смоль, ніводнага белага ці чырвонага пёрка. Адначасова на падворку з'яўляецца кот Варгін, увесь белы, як першы зімовы снег.

Парамон. Ку-ка-рэ-ку! Добрае раніцы, сонейка! Ты сёння такое яркае, а неба такое чыстае, што я абавязкова палячу! Няхай нарэшце гэта здарыцца! *(Адважна кідаецца з даху, бязладна махаючы крыламі, і апускаецца на падворак.)* Зноў не выйшла! Чаму я такі нешчаслівы? Усе птушкі лётаюць, а я – не.

Варгін. Бо праўду кажуць: певень – не птушка.

Парамон *(заўважыўшы Варгіна)*. А ты што за птушка? Адкуль узяўся на нашым двары?

Варгін. Я – кот Варгін. Уцёк ад свайго гаспадара Чарнакніжніка. Хачу пажыць у здаровым сялянскім асяроддзі. *(Мыецца.)* Харчавацца натуральнымі вясковымі прадуктамі: малаком, смятанкай, кілбаскай.

Парамон. Добры кот ад гаспадара не ўцячэ. Пэўна ж, ты пацягаў у свайго гаспадара ўсю смятану ды кілбасы, дык ён цябе і выгнаў. Ідзі прэч, маёй гаспадыні не патрэбен котзлодзей!

Варгін. Не ўцякаюць ад добрых гаспадароў, а мой – злы чараўнік. Карміў мяне жабамі, яшчаркамі, кажанамі. Прымушаў чыніць нядобрыя рэчы.

Парамон. Цьфу, нечысць!

Варгін. Колькі разоў ад яго ўцякаў, а ён мяне з-пад зямлі знаходзіў. Мае чароўную кнігу, гад. А твая гаспадыня – не чараўніца?

Парамон. Не, мая гаспадыня – Агапка. Добрая, працавітая дзяўчына.

Варгін. Шкада.

Парамон. Чаму?

5. Зак. 826

Варгін. Бо гаспадар мяне ўсё роўна знойдзе. Вось каб я трапіў да іншага чараўніка, больш магутнага,– ён бы мяне абараніў.

Парамон. Не бойся, Варгін. Мая гаспадыня хоць і не пачараўніца, а цябе ад каго хочаш абароніць. Калі што – пакліча на дапамогу свайго жаніха, лесніка Стася. У яго сапраўдная стрэльба ёсць.

Варгін. Майму гаспадару ніякая стрэльба не страшная. Бывае, перакінецца ў ваўка, збегае ў вёску, схопіць якое няшчаснае дзіцё – і ніводная куля яго не бярэ. Хоць ты з гарматы па ім бі.

Парамон. Во, мярзотнік! Бедны каток, нацярпеўся ты ў сваім жыцці.

Варгін *(па-філасофску)*. І не кажы. А колькі яшчэ цярпець?

Парамон. Няхай толькі твой Чарнакніжнік з'явіцца на нашым двары! Папомніць ён пеўня Парамона!

Варгін. Ты што, не ўспамінай яго, бо ён адразу будзе тут! *(Спалохана.)* Мяў!

Пасярод двара з'яўляецца Чарнакніжнік.

Чарнакніжнік *(да Варгіна)*. Варгін! Ты зноў уцёк?! Давядзецца цябе пакараць. *(Хапае ката.)*Ператвару цябе ў белую мыш.

Варгін *(вырываецца)*. Толькі не ў мыш!

Парамон. Ану, адпусці ката, нягоднік! Зараз як выйдзе гаспадыня, дасць табе дубца! *(Наскоквае на Чарнакніжніка, спрабуе яго дзеўбануць.)*

Чарнакніжнік *(заўважыўшы Парамона)*. Чорны певень! *(Да Варгіна.)* Ты знайшоў мне чорнага пеўня?! *(Узрадавана.)* Ах ты, мой мілы каток! А я на цябе сварыўся! *(Гладзіць Варгіна.)*

Варгін *(пакрыўджана)*. Мяў! Заўсёды так!

На шум, узняты Парамонам, з хаты выходзіць Агапка.

Агапка. Парамон, пакінь добрага чалавека ў спакоі!

Парамон. Гэта не добры чалавек, гаспадыня! Гэта злы чараўнік! Ён хоча ператварыць ката Варгіна ў мыш. *(Наскоквае на Чарнакніжніка.)*

Чарнакніжнік *(да Парамона).* Змоўч! Зашмат гавbooрыш. *(Выпускае ката і робіць у бок пеўня таямнічы знак рукою.)*

Парамон слупянее на месцы: хістаецца на адной назе, схіліўшы галаву набок. Агапка са здзіўленнем глядзіць на пеўня. Чарнакніжнік бессаромна разглядвае Агапку.

Ах, якая кветачка! *(Да Варгіна.)* Зусім дарэмна я на цябе сварыўся, Варгін. Знайшоў мне і чорнага пеўня і прыгажуню жонку.

Варгін. Толькі ўбачыў – і адразу жаніцца?! Ф-фу!

Чарнакніжнік. Што ты разумееш, дурань! Апсік!

Варгін *(незадаволена).* Вау!

Агапка. Што сталася з Парамонам? Ты сапраўды – чараўнік?

Чарнакніжнік. Не. Гэта ты – чараўніца. Паглядзела на мяне – і зачаравала. Як тваё імя, красуня?

Агапка. Агапка.

Чарнакніжнік. Будзь маёй жонкай, Агапка. *(Здымае з пальца пярсцёнак і падае Агапцы.)* Прымі гэты пярсцёнак.

Агапка *(схаваўшы рукі за спіну).* Не! Я цябе баюся. Словы твае салодкія, ліслівыя, а вочы нядобрыя. Да таго ж у мяне ўжо ёсць жаніх. Таму схавай свой пярсцёнак.

Чарнакніжнік *(весела).* Ах, шкада, спазніўся. Вядома, у такой гожай паненкі ўжо ёсць жаніх. Напэўна, нейкі князь ці каралевіч? *(Да Варгіна.)* Варгін, павіншуй нявесту!

Кот паслухмяна ўстае на заднія лапкі, падыходзіць да Агапкі і кланяецца.

Агапка *(смяецца са штукарства ката).* Ніякі не князь, а просты ляснік Стась. Неўзабаве ён прыйдзе да мяне і прынясе букецік лясных кветак.

Чарнакніжнік *(зноў падаючы пярсцёнак).* А ад мяне вазьмі ў падарунак гэты пярсцёнак. Проста так, вам са Стасем на вяселле.

Агапка. Не. Бацькі вучылі мяне не браць каштоўных падарункаў ад незнаёмых людзей. *(Гладзіць ката.)*

Чарнакніжнік *(ціха).* Упартая дзяўчына! *(Да Агапкі.)* Бачу, спадабаўся табе мой кот, а не я.

А г а п к а. Так, вельмі спадабаўся. *(Лашчыць Варгіна.)*

Ч а р н а к н і ж н і к. Бяры яго сабе, а мне аддай свайго чорнага пеўня. Памяняем белае на чорнае. *(Падыходзіць да Парамона.)*

А г а п к а. Што ты, я свайго Парамона нікому не аддам! Ён мне як сябар.

Ч а р н а к н і ж н і к. Але ўпартая ты дзяўчына! «Пярсцёнак не вазьму, пеўня не аддам». Што ж, забірай ката... проста так. Бачу, ён цябе таксама ўпадабаў.

А г а п к а. Няхай застаецца, калі хоча. Нам з Парамонам будзе весялей, а малако для яго заўсёды знойдзецца.

В а р г і н *(трэцца ля ног Агапкі).* І смятанка. Мяў!

Ч а р н а к н і ж н і к. Бывай, Агапка.

А г а п к а. Бывай, незнаёмец!

Ч а р н а к н і ж н і к. Яшчэ сустрэнемся, красуня! *(Робіць знак рукой у бок Парамона.)* І з табою таксама. *(Знікае.)*

П а р а м о н *(ачуняўшы).* Прэч, прэч з нашага двара!

## З'ява другая

По лясной сцяжынцы ідзе ляснік С т а с ь з паляўнічай стрэльбай за плячыма. У руках ён трымае букецік кветак – падарунак для сваёй нявесты Агапкі.

С т а с ь *(спявае)*

Ой, рана, рана сонейка ўстало.
Сонейка ўстало краснае.
Сонейка ўстало, а ў вачах маіх
Ночкай цёмненькай ясны дзень.
Ночкай цёмненькай, дзевачка мая
Замуж за мяне не ідзе.
Замуж не ідзе, таму што ў мяне
Ні кала няма, ні двара.
Нічога няма, акрамя каня,
Маяго каня вернага...

Ой, рана, рана сонейка ўстало.
Сонейка ўстало краснае...

Чуваць спалоханы крык: «Ратуйце, воўк! Дапамажыце!» З гушчыні лесу даносіцца злоснае воўчае гырчанне. Стась скідае з пляча стрэльбу і бахае ў паветра. Сцяжынку перабягае вялізны калматы воўк. Стась прыцэльваецца і страляе ў ваўка, але воўк бяжыць далей, нават вухам не павёўшы.

Стась. Эх, не патрапіў! *(Кідаецца за ваўком, згубіўшы кветкі.)*

Воўк і ляснік знікаюць за дрэвамі. Чуюцца стрэлы. Праз нейкі час воўк выбягае на сцяжыну і перакідваецца ў Чарнакніжніка.

Чарнакніжнік. Але ж і спрытны хлопец гэты Стась! Ледзь ад яго ўцёк! *(Кладзецца на зямлю і ляжыць як нежывы.)*

Вяртаецца Стась, заўважае Чарнакніжніка, нахіляецца над ім.

Стась. Гэй, чалавеча! Ты жывы? *(Асцярожна кранае Чарнакніжніка рукою.)*

Чарнакніжнік *(расплюшчвае вочы)*. Не ведаю, ці жывы я, ці мёртвы. Напалохаў мяне гэты воўк. *(Прыўздымаецца.)*

Стась. Не бойся, я яго прагнаў.

Чарнакніжнік. А чаму не забіў?

Стась. Дзіўна: колькі разоў страляў – і не патрапіў. Упершыню са мною такое здараецца.

Чарнакніжнік. Але дзякуй табе, адважны юнак. Выратаваў ты мне жыццё. Хачу цябе за гэта ўзнагародзіць.

Стась. На тое і паляўнічы, каб звер не драмаў. *(Збірае кінутыя кветкі.)* А ўзнагароды мне ніякае не трэба.

Чарнакніжнік. А для каго кветкі, калі не сакрэт? Пэўна ж у такога спраўнага малойца ёсць прыгожая нявеста?

Стась. Так, найхарашэйшая ў свеце. Агапкай завуць.

Чарнакніжнік. То мой падарунак будзе якраз дарэчы. *(Здымае з пальца пярсцёнак і падае Стасю.)* Вазьмі гэты пярсцёнак, надзенеш на пальчык сваёй Агапцы – будзе кахаць цябе ўсё жыццё.

Стась *(бярэ пярсцёнак, разглядае)*. Ух ты, які прыгожы пярсцёнак! Каштоўны, мусіць. Не, не магу я яго ўзяць. *(Хоча вярнуць пярсцёнак.)*

Чарнакніжнік. Ты мне жыццё выратаваў, а яно каштоўнейшае за пярсцёнак. Бяры, не адмаўляйся, калі не хочаш мяне пакрыўдзіць. Не для сябе бярэш — для каханае дзяўчыны.

Стась. Дзякуй, добры чалавек. *(Хавае пярсцёнак.)* Во Агапка ўзрадуецца.

Чарнакніжнік. Толькі не паказвай яго ёй адразу і не кажы, хто даў. Зрабі ёй неспадзяванку. Дзяўчатам гэта падабаецца.

Стась. Ведаю, як зраблю. Аддам кветкі, пацалую і надзену ёй пярсцёнак на пальчык.

Чарнакніжнік. А што гэта ў цябе за торбачка на поясе?

Стась. А гэта зярняты для Парамона, пеўня Агапкі. Заўсёды прыношу яму пачастунак, калі прыходжу. Каб ты бачыў, які ён ладны: чорны як смоль, ніводнага белага ці чырвонага пёрка! Марыць навучыцца лётаць, дзівак. Толькі дзе яму, вядома: певень — не птушка.

Чарнакніжнік. Дарэмна ты гэтак кажаш. Ёсць у мяне падарунак і для твайго пеўня. *(Вымае з кішэні маленькую чырвоную торбачку і аддае Стасю.)* Дай пеўню зерне з гэтае торбачкі, ён з'есць яго — і паляціць.

Стась *(бярэ торбачку).* Ды ты — сапраўдны чараўнік!

Чарнакніжнік. Звычайны вандроўнік. Шмат дзе бываю, шмат чаго бачу, тое-сёе ведаю.

Стась. Бывай, вандроўнік! Дзякуй за падарункі!

Чарнакніжнік. Бывай, Стась. *(Ціха.)* Хутка сустрэнемся.

Разыходзяцца ў розныя бакі.

## З'ява трэцяя

На падворку перад хатай Агапкі. Агапка сядзіць на ганку, на каленях у яе ляжыць кот Варгін. Певень Парамон сядзіць на плоце і ўглядаецца, ці не ідзе Стась.

Агапка *(непакоіцца)*. Нешта Стася доўга няма. Можа, што здарылася? *(Лашчыць ката і спявае.)*

Ой, лясы, бары ды лугі-разлогі!
Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі.
Калі хлопца я шчыра любіла,
Да яго сцяжынку пралажыла.
Йшла сцяжынка – дайшла да расстання:
Тут і скончылася нашае каханне.
Я вазьму – і зноў па ёй пахаджу.
Я ізноў на сцяжынку пагляджу.
А на ёй ужо трава-мурава;
Усцяж крушыннік разрастаецца,
Над дарогай галлём навісаецца:
Ні праходу, ні праезду няма...

Варгін *(распешчана)*. Мур-р-р!

Парамон. Не маркоцься, гаспадыня, вунь твой Стась ідзе.

Агапка. Ах! *(Ускоквае, выпусціўшы з рук ката.)*

З'яўляецца Стась з букетам кветак у руках.

Стась. Дзень добры, Агапка! Прывітанне, Парамон! *(Заўважае ката Варгіна.)* А адкуль гэты кот? Які важны!

Парамон. Гэта цяпер наш кот. А клічуць яго Варгін.

Агапка. Мы цябе зачакаліся, Стась. Парамон увесь ранак сядзеў на плоце, і ў мяне праца не ладзілася.

Стась. Меў невялікую прыгоду ў лесе, таму спазніўся.

Агапка. Ой, што здарылася?

Стась. Потым раскажу. Спачатку хачу ўзнагародзіць вас за вашае чаканне. Маю для вас неспадзяванкі. *(Здымае з пояса чырвоную торбачку.)* Парамон, ці навучыўся ты лётаць?

Парамон. Дзе там, нічога ў мяне не выходзіць!

Стась *(высыпае зерне з торбачкі перад пеўнем).* З'еш гэтыя зернейкі — абавязкова паляціш.

Парамон. Дзякуй! Такія вялікія! Смачныя, напэўна. *(Есць зерне.)*

Стась падыходзіць да Агапкі.

Агапка. Якія прыгожыя кветкі!

Стась. Маю для цябе нешта лепшае за кветкі, Агапка. Заплюшчы вочы і дай мне руку.

Агапка смяецца, заплюшчвае вочы і працягвае Стасю руку. Хлопец вымае з кішэні Чарнакніжнікаў пярсцёнак і насоўвае дзяўчыне на пальчык. Убачыўшы пярсцёнак, кот Варгін сіпіць. Агапка расплюшчвае вочы і глядзіць на пярсцёнак.

Агапка. Ой! Шлюбны пярсцёнак! *(Уздымае галаву.)* А дзе мой жаніх?

Стась *(узрадавана).* Вось ён я!

Агапка *(зірнуўшы на Стася).* Ты? Такі нязграбны і брыдкі? *(Смяецца.)* Не, ты не мой жаніх.

Стась *(здзіўлена).* Агапка, што ты кажаш?

Агапка. Мой жаніх — багаты і магутны князь. А ты — просты ляснік. Ідзі прэч! Я буду чакаць свайго сапраўднага жаніха.

Стась. Што яна кажа? *(Разгублена разглядаецца.)* Парамон, што здарылася з тваёй гаспадыняй?

Парамон *(сядзіць пасярод двара з няшчасным выглядам).* Ко-ко-ко!

Стась. Парамон, што ты робіш?

Варгін. Не бачыш? Ён хоча знесці яйка.

Стась. Певень — яйка? Ці я звар'яцеў?

Варгін. Звар'яцеў не звар'яцеў, а здурэў пэўна. Сам ува ўсім вінаваты. Сам даў Парамону гэтыя зернейкі, а Агапцы — пярсцёнак.

Агапка. Звар'яцелы ляснік! *(Пляскае ў далоні.)* Звар'яцелы ляснік!

Стась. Што я нарабіў! Ашукаў мяне вандроўнік. Ну, пачакай, чараўнік, сустрэнемся мы яшчэ з табой!

В а р г і н *(спалохана).* Не ўспамінай яго, ён адразу ж з'явіцца!

Пасярод двара з'яўляецца Ч а р н а к н і ж н і к.

Ч а р н а к н і ж н і к. Вось і сустрэліся, Стась.

А г а п к а *(падбягае да Чарнакніжніка).* Мілы мой! Нарэшце! *(Абдымае Чарнакніжніка.)* Я цябе так чакала!

С т а с ь. Агапка, апамятайся!

Ч а р н а к н і ж н і к. Што зробіш, Стась: не цябе, а мяне яна кахае. Не крыўдуй.

С т а с ь. Гэта ўсё чары. Ты яе зачараваў, вядзьмак! *(Скідае з плячэй стрэльбу і наводзіць на Чарнакніжніка.)*

А г а п к а *(засланяе сабой Чарнакніжніка).* Не, не!

С т а с ь. Эх!.. *(Апускае стрэльбу.)* Што мне рабіць?

Ч а р н а к н і ж н і к *(адхіляе Агапку).* Ідзі дадому і забудзься пра Агапку, ляснік. А то разазлуюся і ператвару цябе ў сабаку.

В а р г і н. Толькі не ў сабаку!

А г а п к а *(да Стася).* Прэч з майго двара! Я не хачу цябе бачыць!

С т а с ь. Добра, Агапка. *(Закідвае стрэльбу за плячо.)* Але я яшчэ вярнуся.

Ч а р н а к н і ж н і к. Прыходзь на вяселле.

С т а с ь пакідае падворак.

П а р а м о н *(занепакоена).* Ко-ко-ко-ко!

В а р г і н. Гаспадар, певень знёс яйка.

Ч а р н а к н і ж н і к. Ах ты, мой даражэнькі! *(Падбягае да Пеўня і вымае з-пад яго вялізнае чорнае яйка.)* Малайчына! *(Робіць знак рукой у бок Пеўня.)* З гэтага яйка вылупіцца Цмок, які будзе шукаць для мяне схаваныя скарбы, прыносіць золата і дыяменты. Мы будзем багатыя, Агапка!

А г а п к а. Мы будзем шчаслівыя, мілы.

6. Зак. 826

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява чацвёртая

Праз месяц на падворку перад хаткай Агапкі. На ганку сядзіць кот Варгін і мыецца. Пасярод двара ляжыць цмок Люцыпар. На страсе – певень Парамон, які чарговы раз спрабуе паляцець.

Люцыпар зацікаўлена назірае за намаганнямі Парамона.

Парамон. Божа, няхай сёння гэта здарыцца! Няхай сёння я палячу! Хоць адзін раз у жыцці! *(Узмахвае крыламі.)*

Люцыпар *(усхвалявана)*. Глядзі, Варгін, глядзі! Зараз мой тата паляціць!

Варгін *(лянiва)*. Не паляціць. Пеўні не лётаюць.

Люцыпар. А мой тата паляціць! Ён незвычайны певень. І я палячу, калі вырасту.

Варгін. Куды табе расці, дурань? І так ледзь у хлеў улазіш.

Парамон. Э-э-эх! *(Кідаецца з даху.)*

Люцыпар *(узрадавана)*. Ляціць, ляціць!

Варгін. Падае.

Певень апускаецца на падворак, цяжка стукнуўшыся.

Люцыпар. Упаў! *(Падбягае да Парамона.)* Бедны тата, ты пабіўся?

Парамон *(устае)*. Колькі разоў табе паўтараць: не называй мяне татам! Пачуюць суседскія куры – засмяюць.

Люцыпар. Ты саромеешся мяне, тата?

Парамон. Цьфу!

Люцыпар. Што мне рабіць, каб ты перастаў мяне саромецца? Я цябе так люблю.

Варгін. Навучыся лётаць, Люцыпар. Ён будзе табою ганарыцца.

Люцыпар. Праўда? Тата, навучы мяне лётаць!

Парамон. Ды я сам не ўмею!

Варгін. Каб вучыць – неабавязкова ўмець.

Люцыпар. Скажы мне толькі, што і як рабіць!

П а р а м о н. Добра, Люцыпар. Рабі ўсё так, як і я. Спачатку навучыся махаць крыламі. *(Паказвае.)* Вось так.

Певень, а за ім і цмок махаюць крыламі.

Так. А зараз залезь на страху і скокні, з усіх сіл махаючы крыламі.

Цмок залазіць на хату.

В а р г і н. А страха пад ім не праломіцца?

Л ю ц ы п а р *(спыняецца)*. Тата, а страха пада мною не праломіцца?

П а р а м о н. Не праломіцца, лезь смела.

Цмок узбіраецца на страху і глядзіць уніз.

Л ю ц ы п а р. Залез!

П а р а м о н. Пачынай махаць крыламі. Так. А зараз – скачы. Ты куды?

Л ю ц ы п а р *(злазіць са страхі)*. Баюся, тата. Можа, іншым разам?

П а р а м о н. Ану, вярніся на страху! У нашым родзе ніколі не было баязліўцаў.

В а р г і н. А цмокі былі?

Л ю ц ы п а р *(вярнуўшыся на страху)*. Добра, тата. Я паспрабую. *(Узмахвае крыламі.)*

П а р а м о н. Смялей, Люцыпар, я з табою!

Цмок кідаецца з даху і – ляціць, нясмела, але даволі лёгка.

Л ю ц ы п а р. Тата, лячу!

П а р а м о н. Ляціць! Глядзіце, мой сын ляціць!

В а р г і н. Увесь у бацьку.

Цмок лётае над дваром. З хаты выходзіць Ч а р н а к н і ж н і к, назірае за лётам цмока. Пры з'яўленні Чарнакніжніка певень зноў слупянее.

Л ю ц ы п а р. Гаспадар, зірні, я лячу!

Ч а р н а к н і ж н і к. Малайчына, Люцыпар! *(Ціха.)* Цмок вырас, неўзабаве пачне прыносіць мне золата і дыяменты.

Л ю ц ы п а р *(прызямляецца).* Гэта тата навучыў мяне лётаць. *(Да Парамона.)* Цяпер ты не будзеш мяне саромецца, тата?

Ч а р н а к н і ж н і к. Які яшчэ тата? Хто табе сказаў гэтае глупства?

Л ю ц ы п а р. Кот Варгін. Сказаў, што Парамон знёс яйка, з якога я вылупіўся, і таму ён — мой тата.

Ч а р н а к н і ж н і к *(да ката).* Давядзецца, аднак, ператварыць цябе ў белую мыш!

В а р г і н *(з жахам).* Мяў!

Ч а р н а к н і ж н і к. Запомні, Люцыпар: няма ў цябе ні таты, ні мамы. Ёсць толькі я, гаспадар. І толькі мяне ты павінен слухацца. Сёння ўночы паляціш шукаць для мяне схаваныя скарбы, золата і дыяменты.

Л ю ц ы п а р. Слухаюся, гаспадар.

Ч а р н а к н і ж н і к *(да пеўня).* А ты мне больш не патрэбны. Пойдзеш у суп. *(Кліча.)* Агапка!

З хаты выходзіць А г а п к а.

А г а п к а. Што, мілы?

Ч а р н а к н і ж н і к. Зварыш заўтра з пеўня суп. Зачыні толькі яго нанач у скрыню, каб не ўцёк.

А г а п к а. Твая воля, любы.

Ч а р н а к н і ж н і к. Неўзабаве мы будзем багатыя і тады справім вяселле. Самае шыкоўнае ў свеце!

А г а п к а. Як скажаш, каханы. *(Ловіць пеўня і нясе яго ў сенцы, у скрыню.)*

Чарнакніжнік вяртаецца ў хату.

Л ю ц ы п а р. А што такое суп, Варгін?

В а р г і н. Бедалага Парамон. Адкукарэкаў сваё.

## З'ява пятая

Ноччу на падворку перад хатай Агапкі. Ля плота стаіць скрыня з пеўнем. З хаты выходзіць Чарнакніжнік, задзірае галаву і глядзіць на месячык.

Чарнакніжнік. Поўня, на двары светла, як удзень. *(Падыходзіць да скрыні.)* Апошняя твая ноч, Парамон. Падыхай свежым паветрам, падумай пра заўтрашні дзень, калі твая мілая гаспадыня зварыць са свайго ўлюбёнага пеўня суп. *(Смяецца.)* Крыўдная смерць, праўда? *(Перакідваецца ў ваўка і бяжыць у лес.)*

Праз нейкі час з хаты выслізгвае кот Варгін, падкрадаецца да скрыні.

Варгін. Парамон, ты не спіш?

Парамон. А ты спаў бы на маім месцы?

Варгін. На тваім месцы? З катоў не вараць супу. Табе страшна?

Парамон. Эх, Варгін... Не так страшна, як крыўдна.

Варгін. А я прыйшоў развітацца. Зноў уцякаю ад гаспадара. Ведаю, што ён мяне знойдзе. Але хоць колькі дзён пажыву на волі.

Парамон. Не ўцякаць трэба, а змагацца! Перамагчы Чарнакніжніка!

Варгін. А што мы з табой можам зрабіць? Я нават са скрыні не магу цябе вызваліць – на ёй цяжкі, вялізны замок.

У небе над хатаю з'яўляецца цмок Люцыпар з вялізным куфэркам у лапах. Прызямляецца на падворку каля скрыні з пеўнем.

Люцыпар. Ух, цяжкі куфэрак. Тата, паглядзі, які я скарб знайшоў! *(Адчыняе куфэрак.)* Золата, дыяменты. Во гаспадар узрадуецца!

Кот Варгін зазірае ў куфэрак.

Варгін. Пашанцавала нягодніку.

Люцыпар. Я што падумаў: аддам гаспадару скарб і папрашу, каб не рабіў з майго таты супу!

Парамон (*расчулена*). Дзякуй, сынок, што пра мяне не забыўся.

Варгін. Нічога ў цябе не выйдзе, Люцыпар. Чарнакніжнік забярэ скарб і ўсё роўна адправіць Парамона ў суп. А цябе пашле шукаць новага скарбу.

Люцыпар. Што ж рабіць? Як вызваліць тату?

Варгін. Зламай замок ды адчыні скрыню, калі не баішся гаспадара. Сілы ў цябе будзе, а адвагі?

Люцыпар (*з гонарам*). У нашым родзе не было баязліўцаў! (*Зрывае лапай замок і адчыняе скрыню.*)

Парамон выбіраецца на свабоду.

Тата, ты вольны!

Варгін. А што далей? Уцякаем разам?

Парамон. Не, я не магу пакінуць гаспадыню ў бядзе. Эх, каб мы ведалі, як забіць Чарнакніжніка! Яго ж ніякая куля не бярэ.

Варгін. Хто сказаў?

Парамон (*здзіўлена*). Ты.

Варгін. Але можна забіць ваўка, у якога ператвараецца Чарнакніжнік. Срэбнай куляй, асвечанай у касцёле.

Парамон. Што ж ты маўчаў дагэтуль?

Варгін. А ў цябе ёсць стрэльба? І срэбная куля?

Парамон. Бяжым хутчэй да Стася! Ён выратуе нас і Агапку! Ён заб'е Чарнакніжніка!

Варгін. Ты бяжы, а я тут застануся. Буду сачыць за Чарнакніжнікам.

Люцыпар. Тата, я з табой!

Парамон. Не, Люцыпар, ты не можаш хутка бегаць.

Люцыпар. А навошта бегаць? Мы паляцім! (*Хапае пеўня ў лапы і ўзнімаецца ў паветра.*)

Парамон. Ох! Варгін, я лячу!

Варгін. Толькі б ён цябе не выпусціў!

Люцыпар з Парамонам знікаюць у начным небе.

## З'ява шостая

На світанку перад хатай Агапкі. На падворку нікога няма, але рап-
там чуваць ваўчынае выццё і з'яўляецца вялізны калматы **в о ў к**.

**Ч а р н а к н і ж н і к** *(у скуры ваўка).* Слаўнае было паляванне! Добра развярушыў свае косці. *(Разглядаецца, бачыць пустую скрыню.)* Певень уцёк! Не мог ён сам уцячы, нехта яго выпусціў.

З-за хаты выходзіць **С т а с ь** са стрэльбаю ў руках.

**С т а с ь.** Вось і сустрэліся мы з табой, чараўнік. Гэтым разам я не спудлую.

**Ч а р н а к н і ж н і к** *(у воўчай скуры).* Ха-ха, дык во хто тут круціцца! Развітвайся з жыццём, Стась: мяне ніякая куля не бярэ. Страляй колькі хочаш.

**С т а с ь** *(навёўшы стрэльбу).* А як табе спадабаецца срэбная куля, асвечаная ў касцёле?

З жудасным гырчаннем воўк кідаецца на Стася, але Стась паспявае стрэліць і трапляе ваўку проста ў сэрца. Воўк падае на зямлю нежывы, ператвараецца спачатку ў Чарнакніжніка, а потым зусім знікае, нібы праваліваецца скрозьдонна.

З-за хаты выбягае певень **П а р а м о н**, выходзіць кот **В а р г і н**, высоўвае галаву цмок **Л ю ц ы п а р**.

**П а р а м о н.** Малайчына, Стась! Ты адважны чалавек і добры паляўнічы!

**В а р г і н.** Нарэшце я вольны. Ніхто не ператворыць мяне ў белую мыш.

**Л ю ц ы п а р** *(з-за хаты).* Тата, ён больш не будзе страляць?

**С т а с ь** *(здзіўлена).* А дзе падзелася цела? Ні ваўка, ні чараўніка.

**В а р г і н.** Зямля праглынула яго, нічога не засталося. *(Падыходзіць да таго месца, дзе ўпаў воўк, і грэбліва кратае пярэдняй лапкай зямлю.)*

З хаты выходзіць занепакоеная **А г а п к а**.

**А г а п к а.** Што здарылася? Хто страляў? *(Заўважае Стася.)* Стась!

Парамон *(ускочыўшы на плот).* Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку! Добрае раніцы, сонейка! Добрае раніцы, гаспадыня! Чарнакніжніка больш няма, мы яго перамаглі! Жахлівая ноч мінула, пачынаецца шчаслівы, радасны дзень!

Агапка. Стась, мілы, чаму ты так доўга не прыходзіў? Я так сумавала без цябе. *(Абдымае Стася.)*

Стась. Сумавала? А дзе твой... дзе твой пярсцёнак?

Агапка *(здзіўлена).* Які пярсцёнак? *(Глядзіць на свае рукі, але ніякага пярсцёнка не бачыць.)*

Стась. Сапраўды, пярсцёнка няма.

Варгін. Разам з Чарнакніжнікам зніклі ўсе ягоныя чары.

Агапка *(да Стася).* Не пакідай мяне больш, любы.

Стась. Ніколі, каханая.

Агапка *(заўважыўшы цмока).* Ой! Што гэта за страхалюд там, за хатай?

Люцыпар *(пакрыўджана).* Ніякі я не страхалюд. *(Хаваецца.)*

Парамон *(зляцеўшы з плота).* Гэта мой сынок, гаспадыня. Цмок Люцыпар. Няўжо ты яго не памятаеш?

Агапка. Сынок? Адкуль ён у цябе? Дзе ягоная маці?

Парамон *(сарамліва).* Няма маці. Сірата ён у мяне.

Агапка. Ох, Парамон, а дзе ж твой сынок будзе жыць? Чым мы яго карміць будзем?

Стась *(пачухаўшы патыліцу).* Гэта праблема.

Парамон. Ніякае праблемы. Мы цябе пакідаем, гаспадыня. Цяпер ёсць каму пра цябе дбаць. А мы з Люцыпарам палецім вандраваць. *(Кліча цмока.)* Выходзь, Люцыпар. Не бойся.

Люцыпар выходзіць з-за хаты. На спіне ў яго прымацаваны кошык, дзе зможа сядзець Парамон у час падарожжа.

Стась. Ты паглядзі, Агапка: у іх ужо ўсё падрыхтавана для падарожжа!

Агапка. Парамон даўно марыў паляцець у вырай з пералётнымі птушкамі...

**Варгін.** І куды вы адразу паляціце? У якую краіну?

**Парамон.** Найперш хачу пабываць у Паўднёвай Амерыцы. Адзін пералётны гусь мне расказваў, што там вядуцца райскія пеўні. Калі там райскія пеўні, значыць, там сапраўдны рай! Ну, а пасля – на выспу Барнэа, у краіну цмокаў. Люцыпар вельмі хоча там пабываць.

**Люцыпар.** Вельмі хачу, тата!

**Парамон.** Паляцелі з намі, Варгін. Месца ў кошыку будзе і для цябе.

**Варгін.** Не, Парамон. Я – хатняя істота. Не люблю вандраванняў. Люблю грэцца на печы, ласавацца смятанкай ды кілбасамі.

**Агапка** *(узяўшы ката на рукі).* Заставайся, Варгін! У нас табе будзе добра.

**Варгін** *(задаволена).* Мур-р-р-р!

**Стась** *(абдымае Агапку і гладзіць ката).* Хітры Варгін ужо знайшоў свой рай!

**Парамон.** Ну, мы паляцелі. *(Хоча залезці ў кошык.)*

**Люцыпар.** Пачакай, тата! Пра падарунак забыліся.

**Стась** *(насцярожана).* Які яшчэ падарунак?

Цмок знікае за хатай, вяртаецца з куфэркам. Ставіць перад Стасем і Агапкай, расчыняе.

**Агапка.** Божа, якое багацце! *(Нахіляецца над куфэркам.)* Золата, дыяменты! Пацеркі, пярсцёнкі, каралі!

**Стась** *(пагрозліва).* Дзе ўзяў? Зноў д'ябальскія чары?

**Люцыпар.** Што ты, чалавеча! Усё сапраўднае. Старажытны беларускі скарб.

Кот скача з Агапчыных рук на зямлю, бярэ лапкамі манету з куфэрка, разглядае, спрабуе на зуб.

**Варгін.** Золата. Без падману. Беларускі талер шаснаццатага стагоддзя.

**Парамон.** Гэта вам падарунак на вяселле. *(Залазіць у кошык.)* Ну, бывайце. Паляцелі, Люцыпар!

Цмок уздымаецца ў паветра.

Стась. Дзякуй за падарунак! Шчаслівай дарогі!

Агапка. Прылятайце ў госці!

Парамон *(крычыць)*. Прыляцім разам з бусламі! Каб дзеткі ў вас вяліся!

Варгін. Не вываліся з кошыка, бусел.

Цмок Люцыпар з пеўнем Парамонам узлятаюць высока-высока і знікаюць у блакіце неба. Стась і Агапка стаяць на падворку і махаюць ім услед рукамі. Кот Варгін сядзіць ля іхніх ног і махае ўслед падарожнікам лапкай.

Стась. А кажуць, што певень — не птушка, не лятае...

*Заслона*